Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 3 - 9 кастрычніка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№40 (138)

Від Вілейскага вадасховішча з калязямнай арбіты

5-я старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Таня, Маладзечна, 18 год, рост 166, вага 48; любімым мульт-героем называе дыснееўскага сабачку Плута, увечары любіць блукаць па горадзе з хлопцам у круглых акулярах, не прызнае самоту і нудную кампанію.*

*Фота Сяргея ЛАРЧАНКІ.*

# Холадна!

*СМАРГОНЬ. Жыхары горада былі вельмі задаволеныя тым, што цэлае лета ў іх кватэрах не адключалі гарачую ваду. Думалася, што справы пайшлі на лад, і так будзе заўсёды.*

Але з надыходам сельскагаспадарчых работ і восеньскіх халадоў яна знікла. Аказваецца, рамонтныя работы ацяпляльнай сістэмы, якія заўсёды праходзяць летам, перанеслі на гэты час. Ацяпляльная сістэма старая, стан яе нездавальняючы, і даводзіцца мяняць вялікую колькасць труб. Горад у канавах і ямах. У кватэрах і душах людзей холадна.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

## "РГ"-статыстыка

### Адсочваем патэнцыяльных падпісчыкаў: 33 з іх нарадзіліся

| *Па райцэнтрах за апошні тыдзень* | *нарадж.* | *смерці* | *шлюбы* | *разводы* |
|---|---|---|---|---|
| Астравец | 2 | 2 | 3 | 1 |
| Ашмяны | 3 | 3 | 3 | 3 |
| Валожын | 2 | 3 | 2 | 1 |
| Вілейка | 2 | 5 | 2 | 1 |
| Маладзечна | 17 | 20 | 24 | 15 |
| Мядзел | 2 | 4 | 2 | 4 |
| Смаргонь | 5 | 5 | 5 | 3 |
| **Усяго** | **33** | **42** | **41** | **28** |

*Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Навіны

### Восень любіць беспрацоўных, а тыя - яе

*АШМЯНЫ. Восень - работ восем. Перарабіць іх тут дапамагаюць людзі з біржы працы.*

- Працуюць у большасці калгасаў на ўборцы камянёў, - зазначае галоўны эканаміст **Тацццяна Шаблінская**. - Акрамя гэтага, 10 чалавек занятыя ўборкай бульбы ў калгасе "Прыгранічны". Работай задаволеныя, бо грошы атрымліваюць у канцы тыдня.

Акрамя гэтага, ёсць магчымасць папрацаваць на будаўніцтве ў калгасе "Леніна" і на дарожных работах у ДЭУ-190.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### У культуры ў бутэльку не заглядаюць

*АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні кіраўнікі музычнай школы, цэнтральнай бібліятэкі, раённага Дома культуры і іншых падведамасных устаноў праводзілі абмеркаванне праекта Дэкрэта "Аб неадкладных мерах па ўмацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны".*

У цэлым, усе былі за яго прыняцце, але на некаторых пунктах усё ж не пагаджаліся. Але не гэта, думаецца, галоўнае. Як зазначыла загадчыца аддзела культуры выканкома Данута Чарнушэвіч, нічога страшнага, калі не ўлічваць празмерных штрафаў, ён у сабе не тоіць. Асабліва для тамтэйшых работнікаў культуры, бо згодна са сваім прызваннем несці культуру ў масы, тыя "у бутэльку заглянуць" не аматары. Тым больш, на рабочым месцы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Сталічных гасцей пакрыўдзілі

*МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю прайшлі VI абласныя веларалі "Маладзечанская восень".*

33 удзельнікі з Вілейшчыны, Маладзечна і Мінска разыгралі каманднае і асабістае першынствы. Вызначыліся маладзечанская ДЮСШ-2, маладзечанскі турклуб "Пілігрым" і каманда Вілейшчыны (у парадку занятых месцаў). У асабістым заліку лепшымі сталі трэнер ДЮСШ **Міхаіл Салуянаў** і яго вучаніца **Святлана Барташ.**

*Аддзел інфармацыі.*

### Ад школы да інстытута

*АШМЯНЫ. На базе сельгастэхнікума будзе працаваць вучэбна-кансультацыйны пункт эканамічнага інстытута.*

Тэхнікуму спаўняецца 45 гадоў. За час існавання ён стварыў добрую матэрыяльную базу. Гэта і вызначыла выбар недзяржаўнай вышэйшай установы.

А з настаўнікамі пачатковых класаў сустрэўся аўтар беларускага буквара **Анатоль Клышка**. Аўтар канкрэтна расказаў аб падручніку, патлумачыў некаторыя моманты.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

### Новая "двушка"

*АСТРАВЕЦ. З пачаткам месяца райцэнтр пераходзіць на пластыкавыя тэлефонныя карткі.*

Іх можна скарыстаць у любым горадзе краіны. Новаўвядзенне абышлося сувязістам у 30 мільёнаў рублёў. Але яны разлічваюць на хуткую яго акупнасць.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

### Валюта для педагогаў

*ВАЛОЖЫН. Мясцовы аддзел адукацыі мяркуе адкрыць уласны валютны рахунак.*

Доларамі зарплату настаўнікам плаціць, зразумела, не будуць, але адкрыццё дасць магчымасць збіраць валютныя сродкі. Пойдуць яны на аздараўленне дзяцей, набыццё абсталявання для школ. Пачаць збіранне плануецца з расійскіх рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Community connections

*МАЛАДЗЕЧНА. Чарговая сустрэча ў рамках названай праграмы прайшла на мінулым тыдні.*

Яе каардынатар **Кевін Стыкні (Kevin C. Sticney)** гаворыць, што задаволены пачаткам работы менавіта ў Маладзечне. На працягу бліжэйшых двух-трох тыдняў у ACCELS будуць чакаць запоўненыя анкеты прэтэндэнтаў.

Затым ён зноў наведае горад, каб мець непасрэдныя гутаркі з будучымі ўдзельнікамі стажыроўкі ў ЗША. Толькі пасля гэтага вызначацца шэсць кандыдатаў на паездку.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Адным абзацам

Аналіз дадзеных выпуску прадукцыі сведчыць аб зніжэнні ўдзельнай вагі дзяржпрадпрыемстваў у агульным аб'ёме прамысловай вытворчасці - з 73 працэнтаў у 1995 годзе і 68 працэнтаў у мінулым годзе да 64 працэнтаў за 8 месяцаў бягучага года. Аднак удзельная вага прадпрыемстваў прыватнай формы ўласнасці застаецца на надзвычай нізкім узроўні - 0,1 працэнта ад агульнага аб'ёму выпуску прамысловай прадукцыі.

У Лондане "Чалавекам года" у вобласці культуралогіі названы дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны доктар філалагічных навук, аўтар шматлікіх кніг па гісторыі і культуры краю **Адам Мальдзіс**.

Краіны, што раней за нас пачалі эканамічныя рэформы і смялей праводзілі іх у жыццё, не толькі перастаюць быць атрымальнікамі дапамогі Захаду, але і самі становяцца крэдыторамі - у Брно прайшлі перагаворы аб выдзяленні Чэшскім імпартным банкам крэдыту ў памеры 119 мільёнаў долараў на рэканструкцыю Беларускага аўтазавода. Фінансаванне праекта плануецца пачаць са студзеня.

Былая беспрацоўная **Таццяна Цітуленка,** што стаяла на ўліку ў вілейскім цэнтры занятасці, узначаліла аддзел райвыканкома па рабоце з моладдзю.

На наступным тыдні жыхары Смаргоншчыны будуць мець магчымасць выказаць набалелае ці крыўду на любога чалавека. Дапаможа ў гэтым прадстаўнік камітэта дзяржаўнага кантролю, які выслухае жадаючых у райвыканкоме.

Трагедыя яўрэйскага народа

# Ахвяры СД

*Вольга КОЛАСАВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

**Франц Гес, паказаннямі якога мы завяршаем сёння друкаваць матэрыял Вольгі КОЛАСАВАЙ, прымаў удзел у карных акцыях у Вілейцы, Мінску, Ільі, Даўгінаве, Красным, Валожыне, Вішневе, Смаргоні, Маладзечне...**

*Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.*

**У якасці сведкаў па гэтай справе былі прыцягнутыя ваеннапалонныя нямецкай арміі, якія адбывалі тэрмін пакарання ў савецкіх лагерах.**

**Асабістыя паказанні ваеннапалоннага Геса Франца.**

"Я нарадзіўся 20. VII. 1909 года другім сынам у сям'і Карла Прыбыла і яго жонкі Францыяны, народжанай Янецкі ў с. Костлян паблізу ад Прэбніц.

16. IX. 1932 г. я ажаніўся на Алене Гес. У нас ёсць трое дзяцей. У студзені 1939 г. я ўступіў у нацыянал-сацыялістычную партыю Германіі і на падставе агульнага распараджэння райхсфюрэра СС Гімлера быў вымушаны перамяніць маё прозвішча Прыбыл на прозвішча Гес (у лютым 1942 г.) і ў сакавіку 1942 г. я выйшаў з каталіцкай царквы.

Калі ў канцы лістапада 1941 г. я прыбыў у каманду спецыяльнага прызначэння камандуючага паліцыяй і СД г. Рыга, я меркаваў, што будуць праведзены расстрэлы. Таварышы мне казалі, што трэба будзе страляць у безабаронных людзей. Мы былі ўсе дарослыя людзі ў 30-40 год, мелі дамы, жонак і дзяцей. Маладыя 18-20-гадовыя са старшага персанала папярэджвалі нас, каб мы не выдавалі нашых меркаванняў наконт расстрэлаў, таму што самі можам трапіць у канцлагер.

У снежні 1941 г. нас перавялі ў распараджэнне камандуючага паліцыяй бяспекі ў г. **Мінск**. У Мінску я ўпершыню піў рускую гарэлку, і не было ніводнага дня, каб не ўжываць яе ў вялікай колькасці. У 1941 г. я першы раз удзельнічаў у аперацыі. Мы, 15 чалавек нашай каманды спецыяльнага прызначэння і



*На здымку акупантаў з часоў апошняй вайны, зробленым на тэрыторыі Вілейшчыны, злева Артнер, побач Мэта Палаш, сакратарка пры СД у Вілейцы. Фота з архіваў КДБ.*

аддзяленне латышоў, выехалі раніцой у дом псіхічна-хворых у Мінску, забралі адтуль 180-200 чалавек. Іх завязлі ў адзін з лясоў, дзе яны былі расстраляныя і закапаныя. Наколькі мне вядома, гэтыя людзі былі невылечныя. Я сам у расстрэле не прымаў удзелу, але на мяне гэты расстрэл так паўплываў, што, прыйшоўшы дадому, я ўзяўся за гарэлку, каб з'явіліся іншыя думкі. Праз дзень быў аддадзены загад ачысціць мінскую турму, для гэтага былі прызначаныя 15 чалавек СС і ўзвод латышоў. З турмы былі ўзятыя 250 чалавек і пагружаныя на аўтамашыны. Па дарозе ў 30 км палова зняволеных замерзла, яны былі закапаныя па прыбыцці на месца, а астатнія расстраляныя латышамі. Некалькімі днямі пазней быў ачышчаны яўрэйскі квартал у Мінску, дзе было схоплена прыблізна каля 2 тыс. яўрэяў. Расстрэл яўрэяў, сярод якіх знаходзіліся жанчыны і дзеці, зноў адбываўся ў лесе, у 30 км ад г. Мінска.

Расстрэл праводзілі латышы, а мы толькі складалі ахову. У апошні час яшчэ некалькі разоў праводзіліся расстрэлы яўрэяў, але без майго ўдзелу, таму што ў снежні я атрымаў водпуск і паехаў дадому. Калі я вярнуўся з водпуску 4 снежня 1942 г., мяне перавялі ў падраздзяленне ў Вілейку. Падраздзяленнем у Вілейцы кіраваў гаўптштурмфюрэр СС **Граве**, яго намеснікам быў гаўптшарфюрэр СС **Ганс Ферстэр**, акрамя трох паліцэйскіх службы бяспекі, 2 шафёры, 10 чалавек аховы і 3 паліцэйскія ахоўнай службы, знаходзіліся яшчэ 6 чалавек латышоў-перакладчыкаў.

У пачатку мая 1942 г. першы раз была праведзена акцыя над яўрэямі ў **Вілейцы**. Для гэтага прыцягваліся дапаможныя сілы - ахоўная паліцыя і 3 беларускіх паліцэйскіх. Кватэры яўрэяў нам паказвалі беларускія паліцэйскія, і арышты праводзіліся ноччу. Каля 300-400 яўрэяў - мужчын, жанчын, дзяцей - былі затрыманыя і пераведзены ў падраздзяленне, там іх сартавалі, працаздольныя яўрэі перадаваліся камісару працы. Больш за палавіну непрацаздольных яўрэяў былі ў гэтую ноч расстраляныя і, наколькі мне вядома, закапаныя на полі за будынкам, дзе размяшчалася падраздзяленне. Дакладныя месца знаходжання магіл мне невядомае. Наступны расстрэл яўрэяў адбыўся ў чэрвені. На світанні нам быў дадзены загад атрымаць харчаванне на дарогу, амуніцыю. Усе паселі на аўтагрузавікі, але мэта нашай паездкі нам не была вядомая, пакуль мы не прыбылі ў Даўгінава. Калі мы прыбылі ў Даўгінава, нашу каманду ўмацавалі вайсковымі часткамі, і ноччу было акружана яўрэйскае гета. На досвітку былі праведзены арышты яўрэяў, каля 2 тыс. чалавек жанчын і дзяцей. Іх сабралі ў адным свірне за горадам і там сартавалі па працаздольнасці. Непрацаздольныя, а іх было каля 1 тыс. чалавек, былі расстраляныя. У расстрэле ўдзельнічалі перакладчыкі падраздзялення і салдаты. Трупы былі аблітыя бензінам і спаленыя. Адзенне і дамашняе абсталяванне, якія належалі яўрэям, былі раздадзеныя рускаму насельніцтву і ахоўнікам. Працаздольныя яўрэі перададзеныя арганізацыі "ТОДТ" і вайсковым часцям на работу. Пасля гэтага мы вярнуліся ў горад, выпілі па некалькі літраў гарэлкі, вярнуліся ў наша падраздзяленне, дзе зноў залівалі гарэлкай бачаныя карціны экзекуцыі, каб на ўсё гэта забыцца. Наступнае меапрыемства супраць яўрэяў арганізоўвалася ў ліпені 1942 г. у г. **Валожыне**, які налічваў да 12 тыс. жыхароў. Калі мы прыехалі ў Валожын, яўрэйскае гета было ачэплена салдатамі. Затрымана было каля 2 тыс. яўрэяў, з якіх мала было прададзена ў арганізацыю "ТОДТ" для работы ў вайсковыя часткі. Расстрэл праводзіўся ў адным старым доме за горадам, і тут трупы былі аблітыя бензінам і спаленыя. У гэты дзень я атрымаў загад ад гаўптштурмфюрэра **Граве**. Граве ўпершыню асабіста ўдзельнічаў у расстрэле. Граве гаварыў: "Хлопцы, я не магу вам дапамагчы, якая ні страшная і бесчалавечная гэтая справа - але зараз вайна, мы салдаты, вы павінны выконваць загады таксама, як і я, і хто адмовіцца, можа разлічваць на пераход у канцлагер, а як там будзе, кожны зможа гэта сам сабе абмаляваць". У гэты дзень, калі я вярнуўся дадому, я напіўся, каб не думаць і разагнаць змрочныя карціны. Некалькімі днямі пазней такое ж мерапрыемства праводзілася ў **Ільі**, дзе каля тысячы яўрэяў былі расстраляныя за горадам, аблітыя бензінам і спаленыя. У гэтым мерапрыемстве ўдзельнічалі салдаты з паветранай часці, леснікі і беларускія паліцэйскія, якія ўваходзілі ў падпарадкаванне нямецкай жандармерыі. У Ільі я ў апошні раз прымаў удзел у расстрэле. Пры наступных аперацыях я не прысутнічаў, а быў у ахове. Аддзяленнем, якое знаходзілася ў Вілейцы, было ўсяго расстраляна каля 13 тыс. яўрэяў на працягу з 1942 па 1944 год. Адлегласць месцаў, дзе праводзіліся аперацыі ад Вілейкі: **Вішнева** - каля 80 км, **Смаргонь** - каля 60 км, **Валожын** - каля 50 км, **Даўгінава** - каля 50 км, **Маладзечна** - каля 20 км, **Ілья** - каля 18 км і **Краснае** - 28 км.



*Капітан Эрнст Кёрнер служыў на складзе-базе артылерыйска-тэхнічнай маёмасці ў Красным. Фота з архіваў КДБ.*

Аперацыі праводзіліся яшчэ і ў іншых мясцовасцях у наваколлях Вілейкі, у якіх, я цяпер не магу прыпомніць, таму што я сам асабіста ў іх не прымаў удзелу.

Вясной 1944 года праводзілася аперацыя ў г. Глыбокае, дзе было расстраляна каля 2 тыс. яўрэяў. Гэтыя яўрэі не падлягалі экзекуцыі, а павінны былі адпраўляцца ў Германію на работу, але калі гета было абчэплена салдатамі, яўрэі пачалі змагацца са зброяй у руках, з боку немцаў былі забітыя і параненыя. Вайсковыя часці падкінулі цяжкія гарматы і разбілі ўсё гета, хто застаўся ў жывых - былі расстраляныя і спаленыя разам з іншымі трупамі. У гэтым расстрэле яўрэяў большай часткай прымалі ўдзел вайсковыя часці. На працягу 1942 года нашу каманду неаднаразова камандзіравалі для акружэння яўрэйскага гета ў Мінск. Там я бачыў, што газацыя праводзілася ў так званых газаўтамашынах, у іх змяшчалася ад 50 да 60 чалавек. Газацыя працягвалася 2-3 хвіліны. Трупы адвозілі ў лес у 30 км ад Мінска і закопвалі. Наколькі мне вядома, у Мінску было знішчана каля 100 тыс. яўрэяў...

Загады для правядзення аперацый супраць яўрэяў заўсёды аддаваліся камандуючым СС і СД г. Мінска штурмбанфюрэрам СС **Эрлінгерам**, якога ў 1944 годзе адклікалі ў Берлін. Яго замяніў штандартэнфюрэр СС **Цэцэн**, якога я пасля рэарганізацыі каманды з чэрвеня 1944 года больш не бачыў. Аперацыі супраць яўрэяў і самі расстрэлы яўрэяў у Мінску праводзіліся пад непасрэдным кіраўніцтвам гаўптштурмфюрэра СС **Стэца** і оберштурмфюрэра СС доктарам **Гейзерам**. Стэца і Гейзера адклікалі пасля ліквідацыі каманды ў Берлін. Гаўптштурмфюрэр СС Граве загінуў у маі 1944 г. Яго паслядоўнікам быў **Іост**, які працягваў работу, а таксама вывеў нас пры адступленні з Вілейкі і выехаў з Тыльзіта ў Берлін...

Вышэйпададзены пратакол напісаны мной уласнаручна на машынцы, што я пацвярджаю сваім асабістым подпісам.

**Франц Гес.**

Пераклала з нямецкага перакладчык лагера 173. (Піталаева)

19. VII. 1945 г. (Франц Гес пакараны смерцю ў Мінску ў 1946 г.)

***Можна мяняць ацэнкі. Можна памятаць вечна і прымусіць сябе забыцца. Але ёсць у чалавечай гісторыі падзеі, выкрэсліць якія з мінулага не дадзена.***

***Для мільёнаў людзей такімі былі і застаюцца дні Вялікай Айчыннай вайны. І хаця з таго часу мінулі дзесяцігоддзі, але і сёння тыя дні адклікаюцца ў сэрцах людзей тымі ж пачуццямі.***

 



## Суббота 11 октября

**БТ** **8.00, 15.00** Новости. **8.10** Здоровье. **8.40** Международный курьер. **9.05** "Под углом 23,5 градуса". **9.30** Уроки Н.Новожиловой. **10.00** Регион. **10.30** "Судьба моя и надежда". **11.00** Зеркало. **11.25** "Все нормально, мама!" **12.00** Четвертое измерение. **12.25** "Мужикальная обойма". **12.40** Многоголосие. **13.10** "Приглашаем на вечерки". **13.40** Международный мотокросс в Осиповичах. **14.00** "Макаенка, 9" **14.20** Творцы. **15.20** Телеспорт. **16.05** "Все мы родом из детства". **17.00** "Риск-версия". **17.30** Белорусский дом. **18.00** Зорная ростань. **18.25** Галерея. **19.00** Х/ф "Подкидыш". **20.15** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Теленавигатор. **22.10** "Поезд в Голливуд". Х/ф (Польша). **23.45** Третий тайм. **0.05 Видимо-невидимо.**

**ОРТ** **6.40** Х/ф "Особо опасные". **8.05** М/ф. **8.40** Лотто "Миллион". **8.45** Слово пастыря. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.10** Домашняя библиотека. **9.30** Утренняя почта. **10.10** "Каламбур". **10.45** Смак. **11.05** Возвращение Третьяковки. **11.30** Х/ф "Два Федора". **12.55** За околицей столицы. **13.25** Очевидное — невероятное. **14.20** Моя семья: год спустя. **15.00** М/ф. **15.45** В мире животных. **16.20** "Как это было". Подпольный бизнес в России. **17.20** Джентльмен-шоу **18.00** "Спрут". 2-я с. **19.05** Телеигра "Эти забавные животные". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.55** Погода. **21.00** Х/ф "Стой! А то мама будет стрелять". **22.35** КВН-ассорти. **23.05** Фильм Дэвида Линча "Дикие сердцем".

**РТР** **6.00** Утренний экспресс **6.55** "Фрам — полярный медведь". **7.50** М/ф. **8.05** "Меморина". **8.30** Парламентский вестник. **9.00** Доброе утро, страна! **9.45** Ваш партнер. **10.00** Вести в 11. **10.20** Под сенью пяти колец. **11.00** Крестьянский полдень. **11.25** "Троица" Андрея Рублева. **11.30** Новая Россия. **11.45** Федерация. **12.15** "Пятое колесо". **12.40** "2005 год". Х/ф. **13.00, 19.50** Вести. **13.20** Телескоп. **13.50** Встречная полоса. **14.05** Открытый урок. **14.35** У всех на устах. **15.00** "Надо жить играючи". **15.15** На дорогах России. **15.30** "Это Москва". **16.00** Вести про... **16.20** Бесконечное путешествие. **16.50** "Испанский танец" **17.00** Совершенно секретно. **17.55** Футбол. Отборочный матч чемпионата мира-98. **20.25** Городок. **21.00** Билл Гейтс встречается с ламерами в Кремле. "И. Мемфис - лучшиий!.." **22.00** Любовь с первого взгляда. **22.40** Программа "А". **23.10** Тихий дом. **23.35** Живая коллекция.

**5** **10.45** "Окно в мир". **12.00** Ток-шоу "Наобум". **12.45** Страсти-мордасти. **13.00** Музыкальный телетеатр. **14.35** Игра "Лотто-бинго". **15.45** Спорт **16.05** "Храм". **16.30** Весь этот цирк. **16.55** Зебра. **18.55** Большой фестиваль. **19.15** "Из жизни отдыхающих". Х/ф. **20.40** Слово — депутатам. **20.50** Блеф-клуб. **21.30** Светская хроника. **21.45** "Новый Петербург". **22.15** "Дикий Восток". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Х/ф "Три товарища". **8.25** М/ф "Назад в будущее". **9.00** Сегодня утром. **9.10** "Итого" **9.30** "Пойми меня". **10.00** "Война в космосе". **10.45** **От "Винта"**. **11.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** "Панорама" **11.45** Криминал. **12.00** Хоккей. Чемпионат России. **14.30** "Каролина в Нью-Йорке". **15.15** Проще простого. **16.00** "Саванна". **17.00** Дог-шоу. **17.30** Герой дня без галстука. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Х/ф "Близнецы" (США). **20.45** Куклы. **21.45** "Байки из склепа". **22.35** "Кнопка плюс". **22.50** "Про это". **23.30** "Плейбой-шоу".

**TV6** **6.00, 7.00, 22.20** "Шесть новостей". **6.10, 12.35, 23.45** Диск-канал. **7.10, 23.20** Дорожный патруль **7.40** "Новые приключения капитана Врунгеля". **9.05** "Цептер-Приз". **9.15** М/ф. **9.45** Ералаш. **10.25** Сериал "Цивилизация грифов". **11.40** М/ф. **13.45** Ток-шоу "Я сама". **14.45** Ток-шоу "Профессия". **15.40** "Клуб одиноких сердец". **16.15** "Прекрасные господа из Буа-Доре". **17.20** Спектакль "Недосягаемая". **18.40** Аптека. **18.55** Скандалы недели. **19.30** "ОСП-студия". **20.20** "Фитиль". **20.35** Х/ф "Волчья кровь". **22.30** "Обоз". **0.50** Х/ф "Синий бархат"

## Воскресенье 12 октября

**БТ** **8.00** Коктейль по воскресеньям. **9.00** Телебом. **9.30** К Дню матери. **9.55** Вершина мира. **10.30** Все нормально, мама! **11.00** Туробъектив. **11.20** Сельчане. **11.50** "Навстречу". **12.20** Я рисую... **12.35** "Осенняя дорога к маме". Х/ф. **13.15** "Осенняя ярмарка-97". **14.00** Олимп. **14.20** "Золотые ключи". **15.00** Новости. **15.20** Бон тон. **15.50** "Золотая рапира **16.20** "Аплодисменты". **17.00** "Оскар". **17.35** "Курьер". Х/ф. **19.05** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Спортивный телекурьер. **21.10** Телебарометр. **21.25** "Карамболь". **22.00** Х/ф "Мелодрама" (Франция). **23.50** Мотоспорт. **0.20** Бархатный сезон

**ОРТ** **6.40** Х/ф "Двое под одним зонтом". **8.15** Мультфейерверк. **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 23.30** Новости. **9.10** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** "Сельский час". **12.30** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.20** "Смехопанорама". **14.20** Клуб путешественников. **15.05** Футбольное обозрение. **15.35** М/ф Уолта Диснея "**Все собаки попадают в рай**". **17.00** "Колесо истории" **18.00** Х/ф "**Особенности национальной охоты**". **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** Брюс Уиллис освобождает заложников и собсвенную жену в боевике "**Крепкий орешек - DIE HARD**". **23.00** Экспрессия танца. **23.45** Х/ф "Народный роман".

**РТР** **6.00** Утренний экспресс **6.55** "Фрам — полярный медведь". **7.50** М/ф. **8.30** Присяга. **9.00** Доброе утро, страна! **9.45** Компьютер. **10.00** Вести в 11. **10.20** Русское лото. **11.00** Пульс. **11.30** Новая Россия. **11.45** Люди и деньги. **12.10** Двойной портрет. **12.40** Музыкальный экспромт. **13.00** Вести. **13.20** "Линда Евангелиста: Париж-Милан-Москва". **14.50** Репортер. **15.20** Довгань-шоу. **15.50** Диалоги о животных. **16.05** Волшебный мир Диснея **17.00** Игра всерьез. **17.25** Неизвестная планета. **17.55** "Аншлаг" и К. **19.00** Зеркало. **20.05** "Тайна Сахары". **21.10** Футбол без границ. **21.40** "К-2" представляет. **22.35** Русский бой. **23.30** У Ксюши. **24.00** Подиум д"АРТ

**5** **9.30, 12.30, 15.30** Информ ТВ. **9.45** Папа, мама и я — спортивная семья. **10.15** Овертайм. **10.45** "Индаба". **11.15** Песни А. Никольского. **12.00** "Негаснущие звезды". Л.Утесов. **12.45** Экспресс-кино. **13.05** "Шаги императора". Х/ф. **14.20** Загадка Шекспира. **14.45** Исторические расследования. **15.45** Спорт **16.05** "Страсти по Филонову". **16.35** Детское ТВ **18.30** Обратный отсчет. **18.55** Большой фестиваль. **19.15** "Русское чудо". Х/ф. **20.35** Слово — депутатам. **20.45** Ноу смокинг. **21.30** У всех на виду. **21.45** Международное обозрение. **22.15** "Парад парадов"

**НТВ** **7.00** Золотой патефон. **7.30** Время "Ч" **8.00** Новости дня **8.15** Среда. **8.30** М/ф "Назад в будущее". **9.00** Сегодня утром. **9.15, 22.50** Кнопка плюс. **9.30** "Пойми меня". **10.00** "Война в космосе". **10.45** **От "Винта"**. **11.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** Полицейские будни. **11.30** Век футбола. **12.00** Х/ф "Квартира" (США). **14.00** Своя игра. **14.30** Маски-шоу **15.15** Устами младенца. **15.45** "Котовасия" **16.00** "Саванна". **17.00** Сегодня вечером. **17.30** Х/ф "**Тумбстоун**" (вестерн, в главной роли Вэл Килмер). **20.00** Итоги. **21.15** Х/ф "Лабиринт любви". **23.05** Х/ф "Жизнь этого парня" (США).

**TV6** **6.00, 7.00, 16.50** "Шесть новостей". **6.10** Диск-канал. **7.10** Дорожный патруль. **7.35** Х/ф "Сампо". **9.20** М/ф. **9.50** "Пальчики оближешь". **10.30** "Назло рекордам!" **11.00** "На Галапагосских островах". **12.05** "Канон". **12.40** "Музыка и пресса". **13.35** "Сделай шаг". **14.30** Спорт **15.10** Ералаш. **15.30** "Москва Александра Олейникова". **15.45** "Прекрасные господа из Буа-Доре". **17.00** "Знак качества". **17.25** Ток-шоу "Мое кино". **18.10** Кинескоп. **19.15** "Фитиль". **19.30** Х/ф "Хозяева Вселенной" (США). **21.45** "Мистер Бин". **22.20** PARTY-зона

Гасцёўня "РГ"

# Від Вілейскага водасховішча з каляземнай арбіты

*– У 1991 годзе, калі праводзіўся рэферэндум па пытанні існавання Саюза, двое касманаўтаў змантіравалі на арбітальнай станцыі высокую мачту, а на ёй узнялі сцяг СССР, – расказвае мой субяседнік, вядомы ва ўсім свеце мастак Андрэй Сакалоў, – гэты момант я паказаў на палатне пад назвай "Самы высокі сцяг Радзімы". У космасе няма ветру, і таму сцяг не мог "лунаць", і, каб ён быў хаця б разгорнуты, змайстравалі спецыяльны каркас. Ужо наступная экспедыцыя выявіла, што ад сцяга засталіся толькі дзве ніткі. Вакуум, сонечны вецер папрацавалі. І тое, што адбываецца з касманаўтыкай цяпер, таксама сумна.*



**Андрэй Сакалоў** родам з Масквы. Там ён скончыў архітэктурны факультэт. 50-я гады, будаваліся "хрушчоўкі", архітэктура перастала быць творчасцю. А на арбіту запусцілі першы спадарожнік. Усё гэта паўплывала на тое, што малады архітэктар змяніў асноўную прафесію на прафесію мастака і пачаў маляваць касмічныя пейзажы.



Цяпер яго работы ёсць і на Байкануры, і ў музеі астранаўтыкі і авіяцыі ў Вашынгтоне, у прыватных калекцыях і нават у каралёў Саудаўскай Аравіі.

Мы сустрэліся ў Вілейцы. Тут, на беразе вадасховішча, Андрэй Сакалоў разам з сям'ёй пабудаваў дом. І аддае перавагу адпачынку толькі тут, ходзіць пад парусам на невялікай лодцы, плавае. І па-ранейшаму малюе космас. Урыўкі з нашай гутаркі — ніжэй.

• *Упершыню трапіў на Байканур толькі ў канцы 60-х гадоў. Адразу пазнаёміўся з Гагарыным, іншымі касманаўтамі. А з Аляксеем Лявонавым мы былі знаёмыя завочна да той паездкі, таму хутка пасябравалі, пачалі маляваць разам.*

*Спачатку нас, мастакоў, якія малююць космас, не вельмі шанавалі. Вось NASA (ЗША) запрасіла да сябе адразу 40 чалавек. З адным з іх, што працуе да гэтага часу, Робертам Маколам, мы разам выстаўляліся.*

• *Робіцца эскіз, які потым адпраўляецца з касманаўтамі на арбіту. Яны робяць паметкі аб перспектыве, колеры, асвятленні. Калі эскіз вяртаецца назад, я заканчваю карціну. Некалькі эскізаў доўга былі на нашай арбітальнай станцыі, таму што не знаходзілася месца ў пасадачным модулі.*

• *Самае прыгожае зорнае неба я бачыў, калі быў у Саудаўскай Аравіі. Там пясок пахне нафтай.*



**Паспрабуйце знайсці на гэтай фотарэпрадукцыі Вілейскае водасховішча. Яно сапраўды там ёсць і мае форму кіта.**

• *Пісьменнікі-фантасты прадказалі многія тэхнічныя дасягненні. Найпершым у гэтай справе быў Жуль Верн. Але вось малады пісьменнік з Ленінграда выказаў фантастычную ідэю: калі на экватары на доўгім тросе падвесіць груз і вывесці яго за межы атмасферы, то ён не зваліцца. Мы з Лявонавым напісалі карціну "Ліфт у космас". Яе ўбачыў Артур Кларк і з'явіўся раман "Фантаны Раю", які потым друкавалі ў часопісе "Техника молодёжи".*

• *У космасе няма граніц, і нашы касманаўты таксама перажываюць за экспедыцыі астранаўтаў ЗША, як і яны за нашых. Космас зближае, гэта настолькі сур'ёзней за ўсю палітыку!.. А месячная эпапея - пытанне прэстыжу. На маю думку, намнога большы подзвіг - вяртанне карабля "Apollo-13", а не высадка экіпажа "Apollo-11".*

Апошнім я задаў пытанне, ці не ўзнікае жаданне маляваць звычайныя зямныя пейзажы тут, на беразе спакойнага вадасховішча, сярод утульнай цішыні вілейскіх лясоў. Аказалася - не, і ў пацверджанне Андрэй Сакалоў паказаў новы пейзаж, дзе з космасу відаць гэтае самае вадасховішча. Усе, хто пажадае, таксама могуць яго ўбачыць. Прыходзьце, прыязджайце на выстаўку ў Вілейку, якая адкрыецца ў гарадской выставачнай зале 4 кастрычніка і будзе прысвечаная 40-годдзю запуску першага спадарожніка. Андрэй Канстанцінавіч запрашае.

*Запісаў Алег ГУЛЕЦКІ.*
*Фота Алега БАШТАВЕНКІ.*

# Залатая восень - час гуляць у футбол. Міні

***МАЛАДЗЕЧНА. Як паведаміў старшыня гарадской федэрацыі футбола Анатоль Ішчанка, 18-19 кастрычніка будзе праведзены ўжо традыцыйны турнір па міні-футболе "Залатая восень". "РГ" пастараецца не застацца ў баку.***

Плануецца ўдзел 12 каманд. Гэта мясцовыя "Маладзечна-96", ЗЛМК, "Дынама", "Спартак" і "Электрамодуль". Павінны прыехаць госці як блізкія - Беразінскае і Чысць, так і далёкія - Ашмяны, Смаргонь, Вілейка, Валожын, Мядзел. У першы дзень стануць вядомыя мацнейшыя калектывы ў чатырох групах, а назаўтра адбудуцца паўфіналы і фіналы. Матчы пройдуць на трох палях. Папярэднія ўмовы такія: асноўны склад - 6 палявых і варатар, працягласць гульні - 2 таймы па 20 хвілін, стартавы ўзнос - 500 тысяч рублёў.

***ВАЛОЖЫН. У мінулыя выхадныя адбыўся ветэранскі турнір памяці футбаліста, трэнера, суддзі Аляксандра Латышава.***

Перамаглі маладзечанцы, якія абыгралі і гаспадароў пляцоўкі, і вілейчан.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

 



## Крымінал, здарэнні

### Грошы за пільнасць

***ВАЛОЖЫН.** Раман Карніцкі, вартаўнік калгаса "Радзіма", ноччу, ахоўваючы тэхніку, пачуў скрыгатанне металу. Хтосьці лез у магазін вёскі Раднікі.*

Аднаму ісці на злодзеяў небяспечна, таму вартаўнік падняў вяскоўцаў. Напалоханыя наўмыснікі збеглі, пакінуўшы ля магазіна аўтамабіль і накрадзеныя з магазіна рэчы. **Раман Карніцкі** ўзнагароджаны грашовай прэміяй райспажыўтаварыства.

*Барыс САЧАНКА.*

### Пераапрануты долар

***МАЛАДЗЕЧНА.** Рабочая завода парашковай металургіі нядорага набыла на гарадскім рынку ў асоб, як іх цяпер прынята называць: каўказскай нацыянальнасці, сто долараў ЗША: дзве купюры вартасцю 50 долараў.*

Вярнулася дадому шчаслівая.

Тады толькі разгледзела больш уважліва тыя долары, пазногцем пасквэбла партрэт на купюры - той няспешна пачаў спаўзаць, згортвацца. А з-пад яго сарамліва зірнуў твар іншага дзяржаўнага дзеяча ЗША.

Праз хвілін колькі такім жа чынам знік і нулік, што прытуліўся ля лічбы "5".

У выніку абедзве 50-доларавыя купюры аказаліся бессаромнай падробкай з 5-доларавых. І заплаціла жанчына за тыя "пераапранутыя" 10 долараў тры мільёны "зайчыкаў".

Пакрыўджаная ў ГРАУС не звярталася.

*Святлана ПОСАХ.*

### Не ўжыліся

***АСТРАВЕЦ.** Трагічны фінал мела сумеснае жыццё ў доме жыхара Варнян Р. і яго сужыцельніцы Людмілы Рэпінай.*

Будучы на добрым падпітку, той пачаў прад'яўляць сваёй сяброўцы прэтэнзіі, затым у ход пайшлі кулакі. Вынік - жанчына ад атрыманых траўм памерла на месцы здарэння.

Цяпер пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу, а падазраваемы арыштаваны. Думаецца, што цяпер многія жанчыны зробяць высновы, з кім можна жыць, а з кім наадварот.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Сімпатычныя рабаўнікі

***ВІЛЕЙКА.** Позна ўвечары нехта пазваніў у дзверы кватэры прыватнага прадпрымальніка, што жыве па вуліцы Першамайскай.*

На лесвічнай пляцоўцы стаяў прывабны знешне хлопец. Гаспадар адчыніў. Тут жа невядома адкуль двое ў масках уварваліся ў кватэру і збілі гаспадара. Здаецца, з рэчаў нічога не знікла. Ідзе следства. Хутчэй за ўсё, прадпрымальнік некаму своечасова не вярнуў пазыку.

*Алена ІРЫСАВА.*

### Большасць самазабойцаў выбірае пятлю

Ноччу нехта ўлез у магазін вёскі Шыпкі. Пакуль вядома, што знікла некалькі шклянак гарэлкі. Рэвізія ў магазіне высвятляе страты. Адначасова ідзе пошук зламыснікаў.

***

Скончыўся суд над бацькам, які згвалціў сваю дачку. "Тата" атрымаў 8 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Ахвяра паступіла ў мясцовае вучылішча на дзяржаўнае забеспячэнне.

***

Магчыма, сёлета будзе рост выпадкаў самазабойстваў. Калі летась за год 37 чалавек такім чынам развіталіся з жыццём, то гэтая лічба значыцца за 9 месяцаў гэтага года. Самазабойствы маладзеюць, большасць выбірае пятлю.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Нататкі злоснага чалавека

### Найважнейшы орган

*На мінулым тыдні даў аб сабе знаць "наш злосны чалавек". Вось яго пытанні.*

У кожнага чалавека, напэўна, ёсць найбольш важны орган. У прафесара - вядома ж, галава! У рабочага - рукі. А які орган самы важны ў тых дзяўчынак, што стаяць у каралеўскіх спаднічках з цыгарэтай ля пад'езда? А ў сяржанта-аўтаінспектара? Можа, хто падкажа, а?

*Валерый ХІНЕВІЧ.*

### Куды ідзем мы з "пятачком"?

***МАЛАДЗЕЧНА.** На тэрыторыі рэспублікі не ваюють. Але ў актавай зале музвучылішча на ўрачыстым вечары "У міласэрнасці ёсць імёны" збіраліся грошы ў фонд Міру.*

Вечар быў арганізаваны мясцовым аддзяленнем. Выступала яго старшыня Святлана Чыжыкава. Яна падкрэсліла, што ў сувязі з Чарнобыльскай аварыяй дзеці і дарослыя маюць патрэбу ў медыцынскай, матэрыяльнай дапамозе.

Сапраўды, дзіцячай паліклініцы па лініі фонду ірландцы перадалі машыну хуткай дапамогі з медыкаментамі - хутчэй за ўсё прывезеную ў якасці гуманітарнай дапамогі. Дык куды ж ідуць добраахвотныя ўзносы? Калі лічыце, што іх не было,- памыляецеся. На вечары прадставілі людзей, якія ўнеслі свой уклад у скарбонку фонду Міру,- старшыню калгаса "Гарадзілава", кіраўніка мясцовага аддзялення "Белзнешэканамбанка", іншых.

Марафон міру ў горадзе праходзіў тры дні. З вечарам адпачынку для ветэранаў вайны і працы.

*Людміла ГЛІНСКАЯ.*

## Адным абзацам

На сесіі маладзечанскага гарсавета аднагалосна вырашана, што абмеркаванне праекта прэзідэнцкага дэкрэта аб умацаванні дысцыпліны пройдзе на 5 прадпрыемствах горада, у тым ліку ЗЛМК і мэблевай фабрыцы.

У Вілейцы приступіў да абавязкаў новы міжрайпракурор. **Аляксандр Мароз** раней працаваў у Старых Дарогах. Ён жанаты, мае сына-студэнта, дачку-школьніцу.

## Калонка псіхолага

### Душы напаказ?

*(Працяг)*

**Чырвоны** - сексуальнасць (яна ляжыць у аснове ўсіх матываў чалавека). Колер гаворыць пра моцную волю, эгаізм і нервовае напружанне. Такія людзі, як правіла, заўсёды атрымліваюць тое, чаго жадаюць. Наогул жа, прыхільнікам чырвонага колеру патрэбна стрымліваць сваю імпульсіўнасць, каб пазбегнуць бытавых траўмаў, няшчасных выпадкаў і аварыйных сітуацый. "Чырвоныя" жанчыны заўсёды вельмі палкія натуры. Яны могуць паставіць рэкордную планку так высока, што іншыя і не снілі. Так, гэта фатальныя жанчыны, якія выкарыстоўваюць сваю сексуальнасць дзеля улады. "Чырвоныя" мужчыны заўсёды імкнуцца да славы і кіравання, не важна чым, толькі б карыстацца пэўнымі прывілеямі. Больш за ўсё яны цэняць свае грошы, таму што глыбока ўпэўнены ў іх магутнасці. Часта, падобна да жанчын, атрымліваюць сапраўдную асалоду ад ушанаваннаў і кампліментаў. Фальшу часта не заўважаюць. А як вы лічыце, ці змогуць яны ўстаяць перад парай прыгожанькіх ножак? Ніколі. Усе іх рашэнні прымаюцца імгненна. "Чырвоныя" дзеці падобныя да блукаючых агеньчыкаў, іх вельмі цяжка ўтрымаць дома. З узростам - ужо каля сябе. Гэтыя маленькія эгацэнтрыкі і потым, усё сваё свядомае жыццё, захоўваюць незалежнасць.

Лічыцца, што чырвоны колер павышае ўтрыманне гемаглабіну ў крыві.

**Жоўты** - слабасць (духу ці фізічная вялясць). Колер увасабляе душэўнае цяпло, жаноцкасць і расчараванне. Такім людзям часта не хапае энергіі, што стварае ўяўленне іх ляноты і бязвольнасці. "Жоўтыя" жанчыны - сірэны, тут ужо сапраўды "слабы пол", без усялякіх прыкмет эмансіпацыі. Яны хутка звіваюць сабе ўтульныя гняздэчкі і задавальняюцца звыклай роляй хатніх гаспадынь.

Заўсёды цэняць тое, што маюць. Мужчыны ж адчуваюць сябе "пад абцасам, як пад дахам". Яны адданыя мужы і клапатлівыя бацькі. Жывуць адным днём. "Жоўценькія" дзеткі звычайна таленавітыя.

Гэты колер паляпшае абмен рэчываў у арганізме.

## Футбол

### 1 ліга. 22 тур

"Дынама" (Мн) - "**Маладзечна**" 1:1.

Пасля гэтага матча маладзечанцы займаюць 14 месца з 19 ачкамі, маючы 4 перамогі, 7 нічыіх, 11 паражэнняў і розніцу мячоў 21-36.

Лідзіруюць у чэмпіянаце "Белшына" - 56, "Дынама" (Мн) - 49, "Лакаматыў-96" (Вц) - 46. Учора маладзечанцы гулялі на выездзе з "Нёманам", а 8-га будуць прымаць "Тарпеда-Кадзіно".

### Чэмпіянаты абласцей

*Міншчына.*

"Беларуськалій" (Салігорск) - "Маладзечна-96" 2:2

"Іслач" (Валожын) - "Белыя Росы" (Мінскі р-н) 1:5

"Прадпрымальнік" (Вілейка) - "Аўтазаводзец" (Жодзіна) з-за няяўкі гасцей гульня перанесеная на 5. 10. Днём раней адбудуцца такія матчы:

"Маладзечна-96" (1 месца) - "Прадпрымальнік" (7 месца)

"Аўтазаводзец" (5 месца) - "Іслач" (12 месца)

*Гродзеншчына.*

"Смаргонь" - "Нёман" - СДЮШАР (Гродна) 6:1

"Цэментнік" (Ваўкавыскі р-н) - "Смаргонь" 0:1

Выйграўшы гэтыя перанесеныя сустрэчы, смаргонцы заваявалі чэмпіёнскі тытул.

На гэтым тыдні гуляецца некалькі матчаў апошняга тура, а ў нядзелю сустрэчамі 1/16 фіналу распачнецца розыгрыш кубка. Нас зацікавяць такія пары каманд:

"Сатурн" (Астравец) - "Смаргонь"

"Баруны" (Ашмянскі р-н) - "Харчавік" (Дзятлаўскі р-н)

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Пажары

### Ноч, пажар, смерці

***АСТРАВЕЦ.** У ноч з 27 на 28 верасня адразу тры пажарныя машыны накіраваліся на тушэнне жылога дома ў вёсцы Караняты. Але, на вялікі жаль, трагедыі было наканавана адбыцца.*

Саракапяцігадовы вясковец Іван Шостка меў ва ўласным доме самаробнае абагравальнае прыстасаванне. Яно было на кухні. Адбылося ўзгаранне. Сам гаспадар задыхнуўся ад дыму. Калі агонь пачаў выбівацца праз вокны і дах, пажар заўважыў 20-гадовы **Руслан Панасюк**, які зусім нядаўна вярнуўся з войска. Ён кінуўся сам яго тушыць. Праўда, нічым дапамагчы гаспадару дома не змог, бо, як маркуецца, трапіў пад палаючае бервяно і таксама загінуў.

Гэты выпадак давёў лічбу загінуўшых сёлета на Астравеччыне да 6 чалавек.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Новы часопіс

***Галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы МУС Рэспублікі Беларусь (ГУВПС) бярэцца за выданне часопіса. У пачатку студзеня 1998 года вы атрымаеце першы нумар поўнакаляровага ілюстраванага часопіса на рускай мове аб'ёмам 64 старонкі "Служба спасения 01".***

Галоўны раздзел выдання будзе арыентаваны, натуральна, на прафесіяналаў. Але ні ў якім выпадку не на людзей, кругагляд якіх абмежаваны толькі рамкамі службы і статута. Таму рэдакцыя не мае намеру прапанаваць чытачам артыкулы-рапарты, напісаныя казённай мовай пратаколаў.

Прыкметнае месца ў "Службе спасения" будзе адведзена юрыдычным кансультацыям па пажарнай тэматыцы, без чаго не абысціся кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, людзям, якія адказваюць за тэхніку бяспекі, тым, хто будуе новыя аб'екты і прыватныя дамы. Абавязковымі сталі нуць усемагчымыя парады спецыялістаў, кансультацыі і рэкамендацыі.

Адзін з аб'ёмных раздзелаў выдання будзе аддадзены для інфармацыйна-хранікальных публікацый. З яго можна будзе даведвацца аб самым значным і цікавым, што адбываецца ў розных сферах жыцця рэспублікі - палітычнай, эканамічнай, культурнай, навуковай, спорце.

Яшчэ адзін аб'ёмны і значны раздзел "Службы спасения" - забаўляльны. У ім вы знойдзеце інтэрв'ю з вядомымі цікавымі людзьмі, прычым не толькі з нашай рэспублікі, вам раскажуць аб пікантных падрабязнасцях з жыцця ўсемагчымых айчынных і замежных "зорак", вы атрымаеце масу карысных парад, даведаецеся, якія значныя падзеі адбыліся ў гэтым месяцы і годзе, і дзесяць, і сто год таму, якія і дзе заўважаныя анамальныя з'явы, зможаце "паварушыць звілінамі" над красвордам, пазнаёміцеся з творчасцю сваіх калег, праверыце, ці не падманваюць гараскопы, усміхнецеся, зірнуўшы на старонку гумару.

Для ўсіх падпісчыкаў "Службы спасения 01" устанаўліваецца пастаянная скідка 30% пры публікацыі рэкламы і прыватных аб'яў. ГУВПС, Беларуская асацыяцыя пажарных і ЭКП "Светач" устанавілі спецыяльныя грашовыя прызы для найбольш актыўных памочнікаў у падпісной кампаніі.

Кантактны тэлефон для даведак: 8-(017)2-33-20-78.

*Рэдакцыя часопіса "Служба спасения 01".*

**Жыве Беларусь!**

# Асвечаны крыж

У свята Узвіжання ў Радашковічах асвечаны крыж, які ўстаноўлены вернікамі на вул. Полацкай. Крыж, зроблены мясцовым майстрам **М. Душкевічам** і ўпрыгожаны вышываным ручніком, асвяціў **айцец Фама.**

• • •

Радашковічам - **550**. З гэтай нагоды 25 кастрычніка адбудуцца святочныя ўрачыстасці. Удзел у іх мясцовыя ўлады запрашаюць прыняць усіх жадаючых. У праграме раённая ярамарка, гульні, забавы, выступленні артыстаў, дыскатэка. Пачатак у 11 гадзін, заканчэнне - 26 кастрычніка ў 4 гадзіны раніцы.

*Мікола ЛІННІК.*

# Андрэй Барбашынскі і Сяргей Гарлуковіч - нашы землякі

***АШМЯНЫ. Не так даўно ў Любліне праходзілі сусветныя гульні палякаў. Адзін з трох пасланцоў Ашмяншчыны, Дзмітрый Зіневіч, заняў 9 месца па настольным тэнісе.***

Расказвае старшыня райспарткамітэта **Збігнеў КАМІНСКІ.**

— На рабочай спартакіядзе вобласці сталі пераможцамі нашы більярдзісты і шашысты. На наступным тыдні будзем праводзіць у сябе некалькі лёгкаатлетычных кросаў, а ў бліжэйшую нядзелю - чэмпіянат краіны па мотаспорце, аб чым паведамляла "РГ". Хочацца яшчэ раз адзначыць нашага выдатнага гоншчыка **Аляксандра Гіруця**, а таксама зачынальніка гэтага віду ў раёне **Эдуарда Вілікава**. Гоначная траса - лепшая ў рэспубліцы: шырыня 6 метраў, падземныя пераходы, наглядальныя вышкі.

Маем стадыён на 2500 гледачоў. Ёсць дзве ДЮСШ. Адна з іх арганізаваная пры калгасе "Маяк", што сустракаецца няэчаста. Другая ў горадзе. Тут развіваюцца лёгкая атлетыка і гандбол (трэнер - **Віктар Рамулевіч**, які, дарэчы, вельмі папулярны). Мы ганарымся сваім выхаванцам алімпійскім чэмпіёнам-92 у складзе зборнай СНД **Андрэем Барбашынскім** (пасля мінскага СКА ён выступаў у розных клубах Іспаніі, Венгрыі і Германіі, дзе зараз гуляе за "Эмсдэтэн" у другой бундэслізе - **аўтар**). Трэба адзначыць і футбол. На першынстве Гродзеншчыны (2 ліга) удзельнічае каманда Барунаў. Напэўна, нямногія ведаюць, што тут пачынаў свой шлях алімпійскі чэмпіён-88 у складзе зборнай СССР **Сяргей Гарлуковіч** ("Гомсельмаш" - "Дынама" (Мінск) - "Лакаматыў" (Масква) - "Барусія" (Дортмунд) - "Аланія" (Уладзікаўказ) - "Спартак", дзе з'яўляецца лідэрам у свае 36 год - **аўтар**). Калі зайшла гаворка аб славутых ашмянцах, успомнім алімпійскага чэмпіёна-36 у складзе зборнай Польшчы стралка **Вярсоцкага**.

З 92-га года, як і наогул у рэспубліцы, развіваем інваспорт. Спачатку здавалася, што гэта складаная справа, а выйшла наадварот. Актыўнасць проста ўражвае. Людзі гуляюць у валейбол, дартс, настольны тэніс, шахматы, шашкі. Спаборнічаюць у лёгкай і цяжкай атлетыцы, армрэстлінгу, плаванні, стральбе, лыжных гонках. У склад зборнай Беларусі ўваходзяць **Валянціна Лабуніна** (шахматы), **Генадзь Барадзевіч** (лёгкая атлетыка), **Міхаіл Кетрыс** (валейбол), **Аляксей Высоцкі** і **Валянцін Анішын** (стральба).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**Яўрэйскі анекдот**

# Кравец, шавец і крамнік

✡ ✡ ✡

Яўрэй купіў на кірмашы адрэз тканіны і занёс яго да краўца, каб той пашыў яму святочны гарнітур. Кравец пару разоў перамераў тканіну, урэшце сказаў, што на пінжак і штаны не хапае.

Яўрэй пайшоў да іншага краўца, які памераў сукно не так дакладна, прыняў заказ і ўзяўся да работы.

Калі ў першы святочны дзень Новага года яўрэй прыйшоў у сінагогу, то не без здзіўлення ўбачыў, што дзевяцігадовы сынок другога краўца носіць на сабе касцюмчык з яго ж матэрыі.

- Што ж гэта такое, - звяртаецца заказчык да першага краўца. - Сказаў мне, што сукна не хапае, а другі не толькі пашыў мне касцюм, але яшчэ здолеў выкраіць з майго кавалка касцюм для свайго дзіцяці?!

- Так, так, але ў мяне блізняткі, - даходліва растлумачыў майстар іголкі.

✡ ✡ ✡

Уладальнік склада адзення раіцца са сваім агентам:

- На нашым складзе засталося дзвесце пар габардынавых сподняў. Што з імі рабіць?

Агент задумаўся на хвілінку і кажа:

- Гэ, я ведаю! У мяне ёсць ідэя! Вышлем нашым пастаянным кліентам па дзесяць споднях. Налічым ім адпаведную цану, але ў рахунку, нібы памылкова, будзе ўказана на восем пар. Кліенты падумаюць, што мы самі сябе абдурылі і не вернуць нам ніводнага пачка, заплаціўшы за тавар.

Шэф прыслухаўся да парады агента, але трыма днямі пазней з праклёнамі ўварваўся на склад да агента:

- Што за ідыёт, асёл сапраўдны! Крэтын! Ідзі да д'ябла са сваёй ідэяй! Ні адзін з кліентаў не прыняў тавару, але затое ўсе як адзін вярнулі нам толькі па восем споднях!

**Беларусь - Польшча**

# Зарабляць болей, плаціць меней?

*Цэны ў доларах на тавары ў Беларусі і Польшчы згодна з дадзенымі Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ на 1. 09. 97 г.*

| | Беларусь | Польшча |
|---|---|---|
| Хлеб сталовы (1 кг) | 0,17 | 0,49 |
| Макарона (1 кг) | 0,95 | 1,14 |
| Мука в/г (1 кг) | 0,59 | 0,46 |
| Цукар-пясок (1 кг) | 0,77 | 0,57 |
| Яйкі (10 шт.) | 0,88 | 0,85 |
| Масла сметанковае (1 кг) | 3,16 | 2,84 |
| Алей (1 л) | 1,76 | 1,37 |
| Малако 3,2 тлуст. (1 л) | 0,26 | 0,41 |
| Ялавічына (выразка незамарож.,1кг) | 4,2 | 3,99 |
| Грудзінка свіная вэнджаная, без касцей (1 кг) | 4,2 | 3,42 |
| Сасіскі (1 кг) | 2,89 | 1,85 |
| Каўбаса вараная (1 кг) | 2,56 | 1,71 |
| Каўбаса "Салямі" (1 кг) | 5,29 | 5,70 |
| Шынка свіная (1 кг) | 6,9 | 4,15 |
| Куры 1 катэг. (1 кг) | 2,3 | 1,42 |
| Апельсіны (1 кг) | 1,39 | 0,71 |
| Лімоны (1 кг) | 1,57 | 0,85 |
| Шпроты (банка) | 0,75 | 0,36 |
| Пральны парашок (1 кг) | 2,58 | 1,17 |
| Халадзільнік тыпу КТ-355 | 258,0 | 177,0 |
| Бензін АІ-95 (1 л) | 0,43 | 0,48 |

Суадносіны ўзроўню і зарплаты ў Беларусі і Польшчы на 1. 09. 97

| | Беларусь | Польшча | % |
|---|---|---|---|
| Сярэдняя зарплата рабочых і служачых у $ | **90,66** | **323,47** | **28,0** |
| Сярэдняя пенсія па ўзросце ў $ | **31,34** | **172,34** | **18,2** |

Трэба зазначыць, што ў Польшчы хлеб такой нізкай якасці, як "Беларускі фармавы" коштам $0,17 не выпякаецца, а самае таннае малако, пастэрызаванае, на працяглы тэрмін захоўвання ў Беларусі каштуе $0,6. Апрача гэтага, у Польшчы развітая сетка дробнаазтовага гандлю, дзе можна купіць практычна ўсе прадукты харчавання на 10-15% танней, чым у магазінах.

